*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 3 (163) ◈ 19 студзеня 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***15 СТУДЗЕНЯ РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ ПРЭЗІДЭНТ ЗША БІЛ КЛІНТАН.** Ён правёў гутаркі са Станіславам Шушкевічам і Вячаславам Кебічам. Пасля Біл Клінтан, Станіслаў Шушкевіч і Вячаслаў Кебіч усклалі вянкі да помніка-абеліска на плошчы Перамогі. Прэзідэнт ЗША выступіў у Акадэміі навук Беларусі, наведаў Курапаты, дзе меў гутарку з лідэрам дэмакратычнай апазіцыі Зянонам Пазьняком. Для жонкі прэзідэнта і іх дачкі была свая праграма. Візіт прэзідэнта ЗША ў Беларусь быў непрацяглым, але, думаецца, што не з гэтай прычыны расійскія сродкі масавай інфармацыі да апошняга дня пра яго не ўспаміналі ў сваіх міжнародных аглядах.*

**ПРАДОЎЖЫЛА СВАЮ РАБОТУ ТРЫНАЦЦАТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Зноў будуць здымаць С. Шушкевіча?

***«У ВЫНІКУ АБ'ЯДНАННЯ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ БЕЛАРУСЬ МОЖА ВЫЙГРАЦЬ ШТОГОД КАЛЯ 1 МЛРД. ДОЛАРАЎ»,** — так сказаў пра аб'яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч. Так — можа, але ж можа і нічога не атрымаць, і, да ўсяго, страціць тое, што ёсць.*

**«АБ'ЯДНАННЕ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ МАГЧЫМА ТОЛЬКІ Ў ТЫМ ВЫПАДКУ, КАЛІ БЕЛАРУСЬ УВОЙДЗЕ Ў СКЛАД РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ.** Усе астатнія варыянты — блеф», — заявіў дэпутат Ул. Заблоцкі.

***УВЯДЗЕННЕ ЛІТВОЙ ВІЗАВАГА РЭЖЫМУ ДЛЯ ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ,** якія наведваюць гэтую краіну, адкладзена да 1 сакавіка 1994 года.*

**ПА АЦЭНКАХ РАСІЙСКІХ ЭКАНАМІСТАЎ,** для ажыццяўлення механізма аб'яднання грашовых сістэм Расія павінна выдзеліць Беларусі адначасова адзін трыльён 600 мільярдаў рублёў. У свой час нават перад выбарамі ў Думу Масква не здолела знайсці 500 мільярдаў на зарплату сваім шахцёрам, а тут сума ў тры разы большая для суседняй дзяржавы...

## І зноў пад чужымі сцягамі

У прэсе нядаўна паведамлялася, што на Беларусі закончылася фарміраванне апошняй беларускай аператыўна-тактычнай вайсковай адзінкі, а па тэлебачанні паказвалі, як гэтыя адзінкі маршыруюць пад чырвонымі, дакладней, былымі саюзнымі сцягамі. У некаторых выпадках, праўда, наперадзе неслі і наш дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. Але неслі яго неяк нядбала. Затое як пампезна неслі чырвоныя сцягі («Знамёна») часцей: з ганаровым эскортам асістэнтаў у параднай форме, з аголенымі шашкамі ў руках.

Стваралася ўражанне, што беларускае войска маршыруе пад чужым сцягам! Я разумею, што ў сённяшніх варунках выраб сцягоў каштуе дорага. Але ж на тое ў нас ужо шмат уласных вайсковых структур, каб у бюджэце сп. П. Казлоўскага хапіла сродкаў на новыя сцягі. Пэўна, тут нешта іншае. Відаць, сп. Казлоўскі разам са сваімі генераламі не спяшаюцца зацвердзіць палажэнні аб нацыянальных сцягах беларускіх вайсковых часцей.

Што зробіш, не хочацца ім маршыраваць пад беларускім дзяржаўным сцягам. Стары — чырвоны — ім, відаць, куды больш блізкі і родны. Але ж трэба ўлічваць, што гісторыя ідзе не назад, а наперад.

І. ФУРСЕВІЧ.

г. Докшыцы.

*АЛЕ!*

## БЕЛАРУСЫ АКУПІРУЮЦЬ... МАСКВУ. УРА?

Як паведаміла газета «Известия», многія маскоўскія вуліцы і плошчы, асабліва блізкія да вакзалаў, рынкаў, станцый метро, акупіравалі грамадзяне Украіны і Беларусі. Яны гандлююць усім, што ўдаецца вывезці з іх «купонных» і «зайчыкавых» (во як нас! — *рэд.*) дзяржаў. Расійскі рубель, які яшчэ нядаўна называлі «драўляным», стаў раптам прадметам страснай прагі грамадзян блізкага замежжа. Дзеля валодання рублём тысячы людзей кідаюць дамы і сем'і, не спяць суткамі, прастойваюць днямі ў зімовай гразі маскоўскіх вуліц... Цэны «купоннай» і «зайчыкавай» брацііі вельмі задавальняюць масквічоў — у паўтара-два разы ніжэйшыя за сярэднія расійскія. Непакоіць толькі, што гэта павялічвае крымінагеннасць становішча, — як мухі на мёд, сюды злятаюцца рэкеціры і дробныя грабежнікі, — ды небяспека, каб увішныя на распродаж беларускага і ўкраінскага дабра «малодшыя браты» не атруцілі «старэйшага». А так журналісты выказваюць непрыхаванае задавальненне, і гэтак вось адраджаецца «единая страна». Імкнуцца «малодшыя браты» ў Расію, дзе і грошы мацнейшыя і попыт пакупніцкі шырэйшы. То не «забава, а, магчыма, адзіны спосаб выжыць» — пускаюць скупую слязу шкадавання па гаротніках расійскія журналісты. Падзякуем ім за сардэчныя спачуванні, але ж спытаем адначасова ў саміх сябе: ды што ж гэта з намі каторы год робіцца, браты?!

Ул. АСІНАЎСКІ.

## КАМУ СЛУЖЫЦЬ БЕЛАРУСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

Як вядома, на Беларусі існуе некалькі рэлігійных хрысціянскіх канфесій. Не ўсе з іх імкнуцца выхоўваць беларусаў добрымі хрысціянамі, зыходзячы з аб'ектыўных працэсаў нашага нацыянальнага Адраджэння, не ўсе імкнуцца ўдзельнічаць у ім. У першую чаргу гэта датычыць Беларускай Праваслаўнай Царквы (БПЦ), або, дакладней, Беларускай філіі Рускай Праваслаўнай Царквы (РПЦ). Можна вызначыць некаторыя важкія аспекты дзейнасці РПЦ на Беларусі, асэнсаванне якіх дазваляе зрабіць адназначную выснову: БПЦ мае антынацыянальны і антыдзяржаўны характар.

Першы аспект — моўны. Набажэнствы ў храмах БПЦ правяцца на расійскай і царкоўнаславянскай мовах. Рэлігійная літаратура амаль цалкам таксама выдаецца на расійскай мове. Аб гэтым ужо шмат пісалася ў друку, таму адзначым толькі адзін момант: з усіх епіскапаў БПЦ, якія сёлета выступалі па тэлебачанні і радыё, ніводны не звярнуўся да сваёй шматмільённай аўдыторыі па-беларуску. Каментарыі тут, відаць, не патрэбны.

Не менш важным з'яўляецца гістарычны аспект. У тутэйшых храмах РПЦ з дня на дзень няўхільна і паслядоўна адбываецца засваенне беларускімі вернікамі гісторыі Расіі, а мінулае гэтай краіны і РПЦ, на думку расійскіх даследчыкаў, непадзельныя. Таму нашы суайчыннікі засвойваюць тыя ацэнкі гістарычных падзей, звязаных з жыццём на Беларусі, якія ўсталяваліся ў расійскіх гісторыкаў. І горш за ўсё, што нашы сродкі масавай інфармацыі нават дапамагаюць распаўсюджваць ілжывую дагматыку, якая не лепш за славутую абэцэдаршчыну.

Напрыклад, у перадачы Беларускага радыё «Духоўная ніва» (гучала ў адну са снежаньскіх субот летась) распавядалася, як у пачатку XVII стагоддзя на Маскву наступалі палякі. Князь Пажарскі стварыў у Маскве народнае апалчэнне і палякаў разбіў. Князю ў гэтым дапамог абраз Божай Маці Казанскай, які зараз свята шануецца БПЦ. Але ж, па-першае, тут успаміналіся толькі палякі і маскавіты. А дзе ж былі беларусы, ці, як нас тады называлі, ліцвіны? Відаць, аўтарам перадачы няўцям, што палякі і ліцвіны ў той час былі ў складзе адной дзяржавы — Рэчы Паспалітай, што яны разам удзельнічалі ў паходзе на Маскву. Па-другое. Абраз Маці Божай Казанскай падаецца як агульная расійская і беларуская святыня, хоць гэта зусім не так. Вядома, усё б адразу стала на месца, каб у нас існавала праўдзівая гісторыя рэлігіі на Беларусі.

Варта звярнуць увагу таксама і на светапоглядны аспект дзейнасці БПЦ. З улікам таго, што большасць вернікаў РПЦ на тэрыторыі былога Саюза складаюць расійцы, атрымліваецца наступнае. Беларусам штучна прышчапляецца ідэя аб выключнасці РПЦ сярод іншых рэлігійных канфесій, атаясамленне паняццяў «праваслаўны» і «рускі» і г.д. Напрыклад, у каляднай тэлеперадачы «Дарога да храма» некаторыя праваслаўныя жыхары вёсак Альшаны Столінскага раёна сцвярджалі, што сапраўдная вера — толькі праваслаўная, а астатнія веравызнанні — не. І гэта ў той жа час, калі пратэстанты з гэтай самай вёскі нічога падобнага не выказвалі. Тут, відаць, адчуваецца «выхаваўчае» ўздзеянне праваслаўных святароў і асабліва — іерархаў.

Навязванне расійскага светапогляду праз БПЦ прыводзіць да таго, што нашы суайчыннікі адвучваюцца мысліць і, адпаведна, дзейнічаць самастойна. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць слабая распаўсюджанасць ідэі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы сярод вернікаў. Хоць, напрыклад, на Украіне гэта ідэя станоўча ўспрымаецца і святарамі і вернікамі. Акрамя светапогляду, пад уплывам БПЦ у нашых грамадзян развіваюцца рысы, не ўласцівыя беларусам у мінулым. У першую чаргу маецца на ўвазе агрэсіўнасць і нецярпімасць да іншаверцаў, да іншадумцаў увогуле. Гвалтоўныя дзеянні праваслаўных вернікаў у Гродне, Полацку і іншых месцах сведчаць аб гэтым.

Не менш адмоўны ўплыў аказвае мастацкі аспект дзейнасці БПЦ. У старажытнасці на Беларусі існавалі свае знакамітыя школы іканапісу. Цяпер іх няма і кіраўніцтва БПЦ нічога не робіць для іх адраджэння. Атрымліваючы ад улад былыя свае (часцей чужыя) храмы, БПЦ на кожным кроку абавязкова гвалтам перарабляе іх на расійскі капыл, які не мае нічога агульнага з беларускімі школамі дойлідства. Такія факты маюць месца ў Віцебску, шэрагу іншых месцаў. Звычайна гэта робіцца без узгаднення з органамі аховы помнікаў. Мастацтва і дойлідства адлюстроўваюць і фарміруюць стыль мыслення. Такім чынам, праз чужое (расійскае) мастацтва і дойлідства, а таксама мову і гісторыю расійскае праваслаўе насаджае чужы нам стыль мыслення, а разам з тым — і чужы лад жыцця.

Неаднойчы слушна выказваецца, што зараз назіраецца свядомае нежаданне кіраўніцтва Беларускай філіі РПЦ прыняць удзел у будаўніцтве суверэннай Беларускай дзяржавы на грунце нацыянальнага Адраджэння. Таму перад тым, як ісці ў праваслаўны храм, свядомым беларусам варта задумацца: каму служыць у нашай дзяржаве БПЦ?

Міхась КАДЫКА,
сябар ТБМ імя Ф. Скарыны.

**ГІСТОРЫКА-МЕМАРЫЯЛЬНЫ ФОНД «ТРАСЦЯНЕЦ» РАСПАЎСЮДЗІЎ ЗВАРОТ** да грамадзян, Вярхоўнага Савета, урада, грамадскіх арганізацый Беларусі, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «У бягучым стагоддзі Беларусь перажыла часы адраджэння, дзяржаўнага нацыянальна-культурнага, дэмакратычнага, і часы трагедыі, якая прывяла Бацькаўшчыну да мяжы разбурэння, мяжы нацыянальнай катастрофы. Адным з самых драматычных перыядаў жыцця краіны стаў перыяд Другой сусветнай вайны і час, які непасрэдна папярэднічаў і ішоў за ёю: ад 1930 — 1939 гг. і ў пасляваенны перыяд, калі краіна ўслед за рэпрэсіямі і за фашысцкай акупацыяй, за Курапатамі і Трасцянцом перажыла заняпад нацыянальнай мовы і культуры і аказалася на мяжы разбурэння грамадзянскай супольнасці Беларусі.

...Менш за ўсё вядома пра існаванне і дзейнасць у 1942—1944 гадах лагера смерці «Трасцянец», у якім загінула па розных звестках ад 206 да 546 тысяч людзей.

Па невядомых прычынах звесткі пра дзейнасць буйнейшага ў свеце лагера смерці «Трасцянец» не трапілі на стол міжнародных следчых арганізацый, якія рыхтавалі Нюрнбергскі працэс...

Гісторыка-мемарыяльны фонд «Трасцянец» звяртаецца да грамадзян Вярхоўнага Савета і ўрада падтрымаць ініцыятыву аб абвяшчэнні 1994 года годам памяці ахвяр вайны і генацыду, ачышчэння ад таталітарызму, насілля і жорсткасці...» Старшынёй гісторыка-мемарыяльнага фонда «Трасцянец» абраны народны дэпутат Беларусі Яўген Цумараў.

ЗГАДКІ

# Беларускія школы ў Заходняй Беларусі

У гісторыі беларускай школы Заходняй Беларусі трэба ўлічваць два моманты. Першы, гэта калі ў часы Першай сусветнай вайны і ў першыя гады пасля яе там, дзе было больш нацыянальна свядомае насельніцтва і дзе ў «начальных народных училищах» працавалі настаўнікамі свядомыя беларусы, пачатковыя і сярэднія школы з расійскай мовай выкладання былі пераўтвораны ў беларускія школы. Так у 1916 годзе ў Вільні былі наладжаны шасцімесячныя беларускія курсы, якія рыхтавалі народных настаўнікаў. На той час у Вільні працавала ўжо шэсць беларускіх пачатковых школ. У 1919 годзе была адкрыта беларуская гімназія ў Вільні. У Віленскім ваяводстве ўжо існавала 200 беларускіх пачатковых урадавых і прыватных школ. А калі беларуская землі былі ў 1920 г. далучаны да Польшчы, то ў Заходняй Беларусі ўжо налічвалася 500 беларускіх урадавых і прыватных пачатковых школ, з якіх у Вільні было восем. Беларускія настаўніцкія семінары былі ў Барунах, Свіслачы, Маладзечне і Полацку. Беларускія гімназіі — у Вільні, Горадні, Гарадку і Будславе. Пазней у 1921 г. былі адкрыты беларускія прыватныя гімназіі ў Навагрудку і Нясвіжы (апошняя праіснавала два гады легальна, адзін год — тайна, пасля з ініцыятывы бацькоў і настаўніцкага калектыву была перанесена ў Клецк і існавала ўжо легальна як Клецкая прыватная беларуская гімназія), а ў 1922 г. — у Радашкавічах.

У 1921 г. ў Вільні ўтварылася культурна-асветная арганізацыя пад назвай «Таварыства беларускае школы». Выканаўчым органам ТБШ была Цэнтральная школьная рада. Дзейнасць ТБШ паводле статута распаўсюджвалася толькі на Віленскае ваяводства. З ініцыятывы і пры дапамозе гэтай арганізацыі ў 1921 г. былі наладжаны беларускія настаўніцкія курсы на 200 слухачоў у Вільні.

Пасля ж акупацыі Заходняй Беларусі Польшчай урад апошняй да 1924 г. уключна ліквідаваў амаль усе пачатковыя беларускія школы, а з сярэдніх засталіся толькі прыватныя гімназіі ў Вільні, Навагрудку, Радашкавічах і Клецку.

Другі момант гісторыі. Пад націскам прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей у польскім сойме былі ў 1924 г. зацверджаны закон аб асвеце нацыянальных меншасцей. Па гэтаму закону беларусы мелі права дамагацца сваіх школ. Беларуская культурна-асветная арганізацыя, у першую чаргу ТБШ (яго дзейнасць паводле статута 1926 г. распаўсюджвалася на Навагрудскае, Віленскае, Палескае і Беластоцкае ваяводствы), а пазней і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры пры дапамозе сваіх пасло ў польскім Сойме пачалі энергічную акцыю па арганізацыі беларускіх школ па ўсёй Заходняй Беларусі.

Найбольшая колькасць беларускіх школ прыпадае на 1927—1928 гг. У Галоўнай управе ТБШ на той час было зарэгістравана 69 пачатковых школ, з іх прыблізна трэцяя частка прыватных. А ў Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры каля дваццаці.

Такі стан працягваўся да 1930 г. Ад 1930 г. пачынаецца паступовая ліквідацыя беларускіх школ. Беларускія школы пераўтвараліся польскім урадам у польскія, а прыватныя зачыняліся. І ў 1936 г., калі былі ліквідаваны Таварыства беларускае школы і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, на Беларусі не існавала ўжо ніводнай пачатковай беларускай школы, а з сярэдніх засталася адна толькі Беларуская гімназія ў Вільні і то ў якасці філіяла польскай гімназіі.

У 1930 г. польскі ўрад адчыніў у Вільні беларускую настаўніцкую семінарыю, якая праіснавала год і некалькі месяцаў. Чаму — сказаць цяжка.

Пасля ліквідацыі беларускіх культурна-асветных арганізацый Таварыства беларускае школы і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ўлады пачалі прапагандаваць на Заходняй Беларусі двухмоўныя польска-беларускія (утраквістычныя) школы. З гэтай мэтай быў выдадзены падручнік лацінкай для трэцяга класа пачатковых школ пад назвай «Нашая праца». У яго складанні прымалі ўдзел і беларусы. Выйшаў з друку ў 1937 г., але карыстацца ім так і не давялося, бо і двухмоўных школ на Беларусі не было.

Так усяўляецца гісторыя беларускае школы ў Заходняй Беларусі да Другой сусветнай вайны.

Надзея ШНАРКЕВІЧ.
Публікацыя
С. НОВІКА-ПЯЮНА.

# РАССТРАЛЯНЫ ВЕРШ



Верш Алеся Дудара «Пасеклі наш край папалам» у другой палове 20-х гадоў быў добра вядомы нацыянальнай інтэлігенцыі Менска. На творчым рахунку аўтара тады ўжо былі тры зборнікі вершаў, а таксама кніга прозы і крытычных артыкулаў.

Алесь Дудар нарадзіўся 24 снежня 1904 года ў вёсцы Навасёлкі Мазырскага павета. Разам з Я. Пушчам, А. Александровічам, А. Бабарэкам, А. Вольным і М. Чаротам у лістападзе 1923 года ён стварае літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». Неўзабаве становіцца сакратаром Цэнтральнага бюро аб'яднання і рэдактарам аднайменнага часопіса.

Верш «Пасеклі наш край папалам» у БССР па вядомых прычынах не друкаваўся, толькі нядаўна ён убачыў свет са старонак «ЛіМа». Згаданы верш мае выключную ролю ў лёсе паэта, бо Дудар за гэты твор быў пакараны смерцю. Прычым, прысуд быў выканаы неадкладна, назаўтра пасля абвяшчэння. 29 кастрычніка 1937 года жыццё А. Дудара і паэтаў М. Чарота, М. Зарэцкага, П. Галавача, А. Вольнага, В. Каваля, В. Сташэўскага, В. Маракова трагічна абарвалася. Відаць, у гісторыі сусветнай цывілізацыі такога яшчэ не было, каб у адзін дзень нацыя адразу страціла восем паэтаў. Дададзім, што 30 кастрычніка былі расстраляны пісьменнікі Я. Нёманскі і Ф. Кляшторны.

Прапануем чытацкай аўдыторыі «Нашага слова» патрыятычны верш А. Дудара «Пасеклі наш край папалам», стварэнне якога каштавала паэту жыцця. Дарэчы, многія думкі, выказаныя ў гэтым творы, не згубілі сваёй актуальнасці і сёння.

М. КАПЫЛОВІЧ.

* * *

Пасеклі наш край папалам,
Каб панскай вытаргаваць
ласкі.
Вось гэта — вам, а гэта нам,
Няма сумленья ў душах
рабскіх.
І цягнем мы на новы строй
Старую песьню і чужую,
Цыгане шумнаю талпой
Па Бесарабіі качуюць.
За ўсходнім дэспатам-царкам
Мы бегаем на задніх лапках,
Нью-Йорку грозім кулаком
І Чэмберлена лаем трапна.
Засыплем шапкамі яго,
Ура, ура патопім у соплях.
А нас, тым часам, з году ў год
Тут прадаюць у разброд і
оптам.
Мы не шкадуем мазалёў,
Мы за чужых праклёны роім,
Але без торгу і бяз слоў
Мы аддаем сваіх герояў.
Ня сьмеем нават гаварыць
І думаць без крамлёўскай
візы.
Бяз нас усё робляць макляры,
Ды міжнародныя падлізы.
Распаўся б камень ад жальбы,
Калі б ён знаў, як торг над
намі
Вядуць маскоўскія рабы
З вялікапольскімі панамі.
О, ганьба! У нашы дні
Такі разлом, туга такая!
...І баюць байкі баюны
Северо-западного края...
Плююць на сонца і на дзень.
О, дух наш вольны, дзе ты,
дзе ты?
Ім мураўёўскі б гальштук
удзець
Нашчаткам мураўёўскім
гэтым...
Але яшчэ глушыце кроў,
Гарыць душа і час настане,
Калі з-за поля і з-за бароў,
Па-беларуску сонца гляне.
Тады мы ў шэрагах сваіх
Быць можа шмат каго ня
ўбачым.
З тугою ў сэрцы успомнім іх,
Але ніколі не заплачам.
А дзень чырвоны зацьвіце
І мы гукнем яму «Добры
дзень».
Ці са шчытом, ці на шчыце
У краіну нашу зноў мы
прыдзем.

НА ЗДЫМКУ: Алесь Дудар.

*Варшаўскі беларуска-польскі часопіс «Дыскусія» ў апошнім нумары змясціў артыкул польскага журналіста Я. Іванюка, прысвечаны аднаму з накірункаў дзейнасці пасольства Беларусі ў Польшчы. Перадрукоўваем яго з нязначнымі скарачэннямі.*

# БЕЛОРУСЬ..? БЕЛАРУСЬ!

Беларускае пасольства звярнулася да польскіх сродкаў масавай інфармацыі з наступным лістом:

«Шаноўны пан рэдактар, хацеў бы паінфармаваць Вас аб тым, што ўжываная дагэтуль у Польшчы назва беларускай дзяржавы «Бялорусь» няслушная. У адпаведнасці з прынятай парламентам 19 верасня 1991 года пастановай поўная назва краіны гучыць як «Рэспубліка Беларусь», а ў скарочаным варыянце — «Беларусь». Згаданая пастанова зацвярджае, што гэтыя назвы «транслітаруюцца ў іншых мовах адпаведна беларускаму вымаўленню».

У сувязі з гэтым мы звяртаемся да Вас, роўна як і да ўсіх галоўных рэдактараў друку, польскага радыё і тэлевізіі з просьбай аб ужыванні дакладнай назвы нашай дзяржавы.

З павагай М. Аляксейчык, прэс-сакратар пасольства».

Ліст падобнага зместу быў накіраваны і ў Міністэрства замежных спраў РП і — як запэўніў пасол — адтуль ужо атрыманы станоўчы адказ. Гэта азначае, што ў польска-беларускіх дыпламатычных стасунках будзе ўжывацца назва «Рэспубліка Беларусь».

Аднак пану паслу не ўдалося пераканаць прысутных на сустрэчы журналістаў, якія мелі шмат аргументаў, на карысць традыцыйнай у польскай мове назвы — «Бялорусь». На пэўную неадпаведнасць звярнуў увагу карэспандэнт «Уорд Прэс Рэвю» Лешэк Паўловіч. Калі ўжо ад польскіх журналістаў патрабуюць, каб яны ўжывалі назву беларускай дзяржавы ў варыянце «Рэспубліка Беларусь», дык чаму бланк ліста пасольства мае іншы надпіс па-ангельску? Не дапамаглі запэўненні пана пасла ў тым, што назва «Рэспубліка Беларусь» ужываецца на форумах ААН, што гэтую назву ўжывае і Расія, для якой гэта быў калі не «Северо-Западный край», дык напэўна «Белоруссия». З'явіліся і іншыя пытанні. Паколькі мае быць «Рэспубліка Беларусь», дык па-польску трэба гаварыць «беларусіні», а не «бялорусіні», што і было пацверджана панам паслом. Дык якую назву трэба будзе ўжываць у адносінах да польскіх беларусаў? Іх жа не датычыць пастанова беларускага парламента. Будзе дзве назвы: беларусіні і бялорусіні, што будзе рэччу смешнай...

Ці беларускі парламент сапраўды не бачыць іншых пагроз незалежнасці сваёй краіны, акрамя спосабу напісання яе назвы палякамі?»

Пераклад У. ПАНАДЫ.

# Дзе і што?

На прэс-канферэнцыі, наладжанай Беларускім саюзам прадпрымальнікаў і арандатараў, яго прэзідэнт Куняўскі зрабіў заяву аб магчымасці атрымання краінай фінансавай дапамогі ў памеры 140 млн. долараў з мэтай падтрымкі эканамічных рэформ. Яго словы дапоўніў прадстаўнік адміністрацыі ЗША: «Мы станем аказваць фінансавую дапамогу толькі тады, калі ў вас пойдуць рэформы. А кідаць грошы камандный сістэме мы намеру не маем». У выпадку ўвядзення нацыянальнай валюты і продажу 15 дзяржаўных аб'ектаў прыватнікам краіна можа атрымаць 200 млн. долараў па праграме «Стэнд бай».

Беларусь наведаў дырэктар вядомай у музычным свеце Заходняй Еўропы музычнай арганізацыі сп. Гамер. Мэта прыезду госця з Англіі — аказанне дапамогі музычным калектывам Беларусі ва ўсталяванні кантактаў з музыкамі іншых краін.

Чырвоны Крыж Германіі вылучыў 75000 марак на аздараўленне беларускіх дзяцей з забруджаных радыяцыяй раёнаў. 11 000 долараў перададзена Беларусі Чырвоным Крыжам Галандыі. Сёння, калі кошт пуцёўкі ў санаторый пад Менскам, дзе на працягу 30 дзён дзіця можа прайсці курс лячэння, складае 220 000 рублёў. Малазаможным сем'ям застаецца спадзявацца на дапамогу з-за мяжы.

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Беларусі ў Расіі Віктар Даніленка, выступаючы ў Вярхоўным Савеце, выказаў думку аб тым, што Беларусі патрэбна хутчэй аб'яднаць сваю грашовую сістэму з расійскай. «Мы Расіі асабліва не патрэбныя. Расія нам патрэбна», — сказаў пасол. Праўда, дзяржаўны чыноўнік не патлумачыў, каго ён абазначае словам «мы» — Рэспубліку Беларусь, Міністэрства замежных спраў ці сябе і сваіх аднадумцаў ва ўрадзе. У. П.

## Вучымся!

УДАКЛАДНІМ

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ АБАСОБЛЕНЫХ ЧЛЕНАХ СКАЗА

I.1. Неразвітыя дапасаваныя азначэнні (адно ці некалькі), выражаныя адзіночнымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі, калі стаяць пасля слова (назоўніка або асабовага займенніка), якое яны азначаюць. Гэта адбываецца ў наступных выпадках:

калі азначэнне надзелена пабольшанай сэнсавай нагрузкай: *Марцін, маўклівы, вёў іх на прарыў варожай блакады* (І. Мележ). *Ён, сонны, глядзеў у акно* (Кузьма Чорны);

### АДАСОБЛЕНЫЯ АЗНАЧЭННІ

калі азначэнне суправаджаецца дадатковым акалічнасным адценнем: *Лабановіч, зацікаўлены, глянуў яшчэ раз на пасаду* (Якуб Колас). *Яны, стомленыя, ледзь перастаўлялі ногі* (С. Баранавых);

калі паміж азначэннем і словам, якое яно азначае, размешчаны іншыя словы: *Шафёр ніколі не мінае будкі, калі едзе, гружаны, з лесу* (І. Навуменка);

калі перад словам, якое азначаецца, размешчана другое (неадасобленае) азначэнне: *З бярозавай галінкі, надломанай, цяклі празрыстыя кроплі соку* (Міхась Чарот);

калі пасля слова, якое азначаецца, размешчана не адно, а некалькі азначэнняў: *На дварэ імжыць дождж, халодны, восеньскі* (Якуб Колас).

Калі дапасаваныя азначэнні (адно ці некалькі) цесна звязаны з назоўнікам, які яны азначаюць, то яны не адасабляюцца і коскай не аддзяляюцца: *Сны неспакойныя спаць не даюць мне начамі* (Янка Купала). *Звон пчаліны стаіць над палянкай* (П. Пестрак).

Пры цеснай сувязі з азначаемым назоўнікам не адасабляецца ў сказе адно дапасаванае азначэнне, калі перад гэтым назоўнікам размешчана другое дапасаванае азначэнне (незалежна ад спосабу выражэння): *У цёплы вечар летні гаманіла ўсё сяло* (П. Глебка). Але калі пасля азначаемага назоўніка знаходзіцца не адно, а некалькі неразвітых азначэнняў, то яны, як правіла, адасабляюцца, напрыклад: *Аднекуль патыхаў прыемны вецярок, густы, цёплы* (Якуб Колас).

Не адасабляюцца і не аддзяляюцца коскай азначэнні, якія выражаны прыметнікамі або дзеепрыметнікамі вінавальнага склону і размешчаны за асабовымі займеннікамі ў форме гэтага ж склону: *Міхалка ўбачыў яе хворую* (К. Чорны). *Санітары прынеслі яго раненага* (І. Мележ).

**Заўвага.** Ад адасобленых азначэнняў трэба адрозніваць канструкцыі, у якіх прыметнікі або дзеепрыметнікі выконваюць ролю выказальнага слова ў састаўным выказніку: *Бор стаіць зялёны* (А. Вялюгін). *Маці прыходзіць з поля стомленая і негаваркая* (А. Васілевіч).

2. Калі неразвітыя дапасаваныя азначэнні (адно ці некалькі) стаяць перад азначаемым словам, якое выражана асабовым або азначальным займеннікам, то яны заўсёды адасабляюцца і аддзяляюцца коскай: *Радасны, ён спяшаецца на работу* (П. Пестрак). *Змучаныя, стомленыя і атупелыя, яны панура маўчаць* (Якуб Колас).

Неразвітыя дапасаваныя азначэнні (адно ці некалькі), якія знаходзяцца перад азначаемым словам, выражаным назоўнікам, адасабляюцца і аддзяляюцца коскай, калі яны суправаджаюцца дадатковым акалічнасным адценнем: *Шчаслівы, у акно роднай хаты стукае рыбак пасля багатага ўлову* (М. Лупсякоў).

Калі ж такія азначэнні не маюць дадатковага акалічнаснага адцення, тады яны цесна прымыкаюць да азначаемага слова, а таму не адасабляюцца і коскай не аддзяляюцца: *Шчаслівыя дзеці ідуць па вуліцы* (У. Краўчанка).

3. Заўсёды адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі неразвітыя дапасаваныя азначэнні, калі ў сказе апушчаны словы, якія яны азначаюць: *Па вуліцы, шчаслівыя, шпарка крочым на завод* (А. Кулакоўскі).

4. Развітыя дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікавымі ці дзеепрыметнікавымі словазлучэннямі, часцей за ўсё адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі, калі стаяць пасля азначаемых слоў (назоўніка ці займенніка): *Ужо не вернецца ніколі краса, адцвіўшая даўно* (П. Трус). *Мы, узбуджаныя ад хвалявання, не маглі спакойна гаварыць* (Я. Брыль).

Развітыя дапасаваныя азначэнні ў пазіцыі пасля азначаемага слова не адасабляюцца:

калі азначаемае слова выражана назоўнікам і само па сабе не перадае належнага сэнсу і патрабуе адпаведнага азначэння: *Настаў дзянёк даўно чаканы* (Якуб Колас);

калі азначаемае слова выражана адмоўным або няпэўным займеннікам: *Нешта новае для нас пачулася ў старой песні* (Цішка Гартны). *Яна не сказала нічога цікавага для настаўніка* (Якуб Колас);

калі азначэнне выражана складанай формай вышэйшай або найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў: *Яму трапілася кніга самая цікавая* (Якуб Колас). Падобная форма без параўнання: *У вёсцы будавалі дамы не надта высокія* (В. Каваль).

5. Развітыя дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікавымі і дзеепрыметнікавымі словазлучэннямі, заўсёды адасабляюцца і аддзяляюцца коскай, калі стаяць перад азначаемым словам, якое выражана асабовым або азначальным займеннікам: *Дожджыкам буйным абмыты, я смела вясслую ў прыволле* (П. Трус).

Калі ж азначаемае слова выражана назоўнікам, то размешчаныя перад ім развітыя дапасаваныя азначэнні адасабляюцца і аддзяляюцца коскай тады, калі маюць дадатковае акалічнаснае адценне: *Звычайна маўклівы, Васіль гаварыў амаль бесперапынна* (І. Шамякін).

Развітыя дапасаваныя азначэнні перад азначаемым назоўнікам адасабляюцца і аддзяляюцца коскай таксама тады, калі раз'яднаны з ім іншымі словамі ў сказе (асабліва тымі, што выступаюць у ролі выказніка), напрыклад: *Стомленыя днём і работай, адпачывалі лётчыкі* (М. Лынькоў).

Коска не ставіцца, калі дапасаванае азначэнне, якое размешчана побач з азначаемым словам, цесна звязана з ім у адно цэласнае па сэнсу і інтанацыі спалучэнне: *За расстаўлнымі ў тры рады партамі сядзелі хлопчыкі і дзяўчынкі* (Т. Хадкевіч).

*КУЛЬТУРА МОВЫ*

# Ян Скрыган прапанаваў

З цікавасцю прачытаў у «Нашым слове», № 49, матэрыял сп. У. Куліковіча «Мілагучнасцю сэрца чаруе», у якім аўтар, абапіраючыся на даўні артыкул У. Дубоўкі, правільна і своечасова ставіць пытанні ўдасканалення асобных пунктаў беларускага правапісу. Адзінае, што хацелася б дапоўніць, гэта пункт 2-і — ужыванне канчаткаў прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку ў родным склоне і назоўнікаў і прыметнікаў у творным склоне. Аўтар піша, што «ў расійскай мове асноўнымі канчаткамі ў гэтых формах прынята лічыць канчаткі *-ой, -ей*», і цытуе Дубоўку: «Тады, калі чарговае слова (у беларускай мове.— *А. Ф.*) пачынаецца зычным гукам, трэба даваць поўныя канчаткі, калі галосным — трэба даваць кароткія». З гэтым можна пагадзіцца, але толькі ў тым выпадку, калі гэтыя формы знаходзяцца *ў сярэдзіне* сказа (як у прыкладзе У. Дубоўкі). Калі ж сказ імі заканчваецца, у рускай (прынамсі, літаратурнай) мове на гэты конт строгае правіла: аднародныя прыметнікі пішуцца з канчаткамі *-ю*, а канцавы назоўнік — з *-й*. «Прелесть сближения со светск*ою*, мил*ою* и невинн*ою* девушк*ой*» (Л. Талстой).

Асабіста мне толькі ў аднаго беларускага празаіка ўдалося заўважыць строгую сістэму ў напісанні гэтых канчаткаў — у Я. Скрыгана. Ён ужываў іх якраз наадварот, чым у рускім правапісе. Напрыклад, па-скрыганаваму, вышэйзгаданы сказ гучаў бы прыкладна так: «Прывабнасць, навізна зближэння з шляхетн*ай*, мі*лай* і цнатлів*ай* дзяўчын*аю*». Такая ж сістэма заўважаецца і ў гаворцы вясковых людзей: «не хадзі *той* дарог*ою*», «хай ты з так*ой* жытк*аю*!» і інш. Мне здаецца, гэтае «правіла» лёгка запамінаецца — трэба толькі ведаць, як у рускай літаратурнай мове, а ў беларускай пісаць наадварот.

Андрэй ФЕДАРЭНКА.

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАДАХВОЦІЦЬ** (узбудзіць у кім-н. ахвоту, жаданне да чаго-н., якое ўсё больш узмацняецца) [Дзед Тарас:] *Падахвоціў я праўленне пабудаваць сховішча на садавіну* (Паслядовіч), **РАЗАХВОЦІЦЬ** размоўнае *Прысеў цвыркун на прыпечку, Зайграў цвыркун у скрыпачку. Смыкам водзіць ён з-за вуха, Разахвоціў нават муху* (Хведаровіч), **РАЗЛАСАВАЦЬ** разм. *Лёгкая нажыва разласавала яго.*— Незакончанае трыванне: **ПАДАХВОЧВАЦЬ, РАЗАХВОЧВАЦЬ.**

1. **ПАДАЦЬ** (перамяшчацца зверху ўніз пад уздзеяннем сілы цяжару або ўласнага цяжару) *За платамі ў садах падалі спелыя яблыкі* (Чорны), **ВАЛІЦЦА** *Рукі* [Зосіны] *калаціліся і лён валіўся на зямлю* (Крапіва), **ЗВАЛЬВАЦЦА** (падаць адкуль-н., з чаго-н.) *Усе байцы, хто хоць трохі мог варушыцца, пачалі высокваць, а то проста звальвацца з машыны* (Кулакоўскі), **СПАДАЦЬ** (падаць уніз, адарваўшыся ад чаго-н.) *З капяжоў спадалі рэдкія цяжкія кроплі* (Гартны), **АПАДАЦЬ** (асыпацца, адвальвацца — пра лісце, кветкі і пад.) *У паветры яны, гэтыя камякі, рассыпаліся на дробныя і так ападалі на зямлю* (Кавалёў), **АСЫПАЦЦА** (ападаць — пра лісце, зерне і пад.) *На кветках раса. Асыпаецца ліст* (Няхай), **ЛЯЦЕЦЬ** разм., узмацняльнае (імкліва падаць, валіцца) *Старыя дрэвы з шумам і страшэнным грукатам ляцелі на зямлю* (Чарнышэвіч), **БУХАЦЦА** разм., узмацн. (імкліва, з шумам падаць) — *Гу-у-у-у! — бухаецца яно* [бервяно] *ў Нёман* (Колас), **БУХАЦЬ** разм., узмацн. (імкліва, з шумам падаць) *Губы прывычна сціскаюцца за разцамі, вушныя ракавіны шчыльна закрываюцца і, адапхнуўшыся ад берага моцнымі заднімі нагамі, ён* [бабёр], *як калодка, потырч бухае ў ваду* (Брыль), **ГРОХАЦЦА** разм., узмацн. (імкліва, з шумам падаць) *Ды з вышыні ў метраў сем ці восем, Зямным спакоем жывучы яшчэ, Яна раптоўна грохаецца вобзем. І з трэскам разлятаецца ушчэнт* (Чэрня).— Закончанае трыванне: **УПАСЦІ, ЗВАЛІЦЦА, СПАСЦІ, АПАСЦІ, АСЫПАЦЦА, ПАЛЯЦЕЦЬ, ЗЛЯЦЕЦЬ, БУХНУЦЦА, БУХНУЦЬ, ГРОХНУЦЦА.**

2. **ПАДАЦЬ** (пра чалавека, жывёліну і пра ўсё, што займае вертыкальнае, стаячае становішча: губляючы апору, не ўстаяўшы або разбураючыся, рэзка апускацца на зямлю, на падлогу і пад.) *Дзед выпускае маю руку і старчма падае на брук (Васілевіч),* **ВАЛІЦЦА** *Дырэктар пачынае адбівацца нагамі і, не ўтрымаўшы раўнавагі, валіцца далоў* (Вітка), **ЛЯЦЕЦЬ** разм. (імкліва падаць ад моцнага штуршка, удару і пад.) *Ногі мае коўзаюцца, рукі зрываюцца, і хутка я лячу ўніз* (Якімовіч), **РАСЦЯГВАЦЦА** узмацн. (пра чалавека: падаць усім целам, плазам, часцей тварам уніз), **БУХАЦЦА** разм., узмацн. (грузна з шумам падаць) *Бухацца на слізкім панадворку,* **БУХАЦЬ** разм., узмацн. (грузна, з шумам падаць) *Дрэва бухае на зямлю,* **КУЛЯЦЦА** разм. (падаць, пераварочваючыся) *Войка аніяк не мог утрымацца на лыжах і раз-поразу куляўся ў снег* (Кавалёў).— Зак.: **УПАСЦІ, ПАВАЛІЦЦА, ПАЛЯЦЕЦЬ, РАСЦЯГНУЦЦА, БУХНУЦЦА, БУХНУЦЬ, ГРЫМНУЦЦА, ГРЫМНУЦЬ, РУХНУЦЬ, КУЛЬНУЦЦА.**

3. **ПАДАЦЬ** (хутка і неакуратна апускацца на што-н., куды-н., ад стомленасці, знямогі, пад уплывам якога-н. пачуцця і пад.) [Мішка] *цяжка падае на сані і крычыць «гані!»* (Брыль), **ВАЛІЦЦА** *Ад рання да позняй ночы працавалі жанчыны, а потым валіліся на салому ў сваіх катухах* (Маўр), **КІДАЦЦА** *Рыгор кідаўся ў падушку і засынаў* (Гартны), **БУХАЦЦА** разм., узмацн. *А калі прыходзіў п'яны, то стомлена бухаўся на кушэтку* (Мехаў), **БУХАЦЬ** разм., узмацн. *Бухаць на ложак у стоме.*— Зак.: **УПАСЦІ, ПАВАЛІЦЦА, КІНУЦЦА, БУХНУЦЦА, БУХНУЦЬ.**

4. **ПАДАЦЬ** (на калені, у ногі, ніц: імкліва апускацца перад кім-, чым-н, з просьбай, у пакоры і г. д.) *Падаць перад кім-небудзь на калені,* **ВАЛІЦЦА, КІДАЦЦА** *Яшчэ ўчора такія гордыя і грозныя, сёння кідаліся паны на калені перад Сёмкам-матросам* (Лынькоў), **БУХАЦЦА** разм., узмацн. *Бухацца каму-небудзь у ногі,* **БУХАЦЬ** разм., узмацн. *Бабулькі бухаюць на калені, устаюць, і зноў кленчаць, стукаюцца ілбамі аб падлогу* (ЛіМ).— Зак.: **УПАСЦІ, ПАВАЛІЦЦА, РУХНУЦЬ, КІНУЦЦА, БУХНУЦЦА, БУХНУЦЬ.**

5. **ПАДАЦЬ** (пра валасы, тканіны, адзенне і пад.: апускацца на што-н., закрываць сабою што-н.) *Пасма светлых валасоў падала на лоб. і...* [Заранік] *часта адкідваў яе рукой назад* (Хадкевіч), **СПАДАЦЬ** *Залацістыя валасы, завіваючыся, спадалі на плечы* (Грамовіч), **СПУСКАЦЦА** *Кароценькі бранябойшчык, з густым чубам, які спускаўся на лоб, хутка зарадзіў ружжо зноў* (Мележ), **ЗВІСАЦЬ** *На Максімаў лоб звісалі пасмачкі белых кучаравых валасоў* (Асіпенка), **ЗВЕШВАЦЦА** *Каштанавыя валасы... звешваліся паабапал высокага лба* (Чорны). *З пояса гэтага дзіўнага чалавека звешваліся чырвоныя стужкі, раменьчыкі і розныя бразгаўкі* (Бяганская).— Зак.: **УПАСЦІ, СПУСЦІЦЦА, ЗВІСНУЦЬ, ЗВЕСІЦЦА.**

**ПАДБАДЗЁРВАЦЬ** *(каго і без дапаўнення:* надаваць каму-н. упэўненасці, бадзёрасці; паднімаць настрой) — *Малайцы! Біце гадаў! — падбадзёрваў атакуючых палкавы камісар* (Кухараў), **БАДЗЁРЫЦЬ** каго-што і без дапасавання (надаваць сілы, энергіі, бадзёрасці; ажыўляць) *З халодным ветрам урываліся частыя каплі дажджу, адганялі сон, бадзёрылі* (Лынькоў), **УЗБАДЗЁРВАЦЬ** *каго-што* (выклікаць бадзёры настрой, прыліў сілы, энергіі) *Грукат вайны ўзбадзёрваў Чыжыка* (Лупсякоў).— Зак.: **ПАДБАДЗЁРЫЦЬ, УЗБАДЗЁРЫЦЬ.**

*Памяці Рамана Сцяпанавіча Лецкі, навагарадскага краязнаўцы*

# ГОМАН - ГОМАН У СТАЛІЦЫ... БЫЛОЙ

## У СНЕЖНІ Ў НАВАГАРАДКУ АДБЫЛАСЯ НАВУКОВА-ТЭАРЭТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «ВЕЧНА ЖЫВЫ МІЦКЕВІЧ»

**195 гадоў таму, 24 снежня 1798 года ў маёнтку Завоссе (зараз Баранавіцкі раён) нарадзіўся геніяльны паэт-рамантык Адам Міцкевіч, чыя творчасць належыць не толькі двум суседнім славянскім народам — палякам і беларусам, а і цэламу свету. У скарбонцы сусветнай літаратуры гэта славутае імя стаіць побач з імёнамі Дж. Байрана і А. Пушкіна.**

У снежні ў Навагарадку адбылася навукова-тэарэтычная канферэнцыя «Вечна жывы Міцкевіч».

— У Навагарадку будзе снег,— кажа мой выпадковы спадарожнік, глядзячы на голыя карэліцкія палеткі,— там горы...

Гэтыя горы, як сцвярджае археолаг Ф. Д. Гурэвіч у сваёй кнізе «Древний Новогрудок» (Л., 1980), здаўна былі заселены славянамі. На дзвюх самых высокіх нашыя прашчуры збудавалі багаты і прыгожы горад, які стаў цэнтрам Навагарадскага княства, а з цягам часу — першай сталіцай магутнай беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. Дзяржава сапраўды была магутнай: мангольскія орды, якія спапялілі і зрабавалі Масковію, Кіеўскую Русь, Галіцка-Валынскую зямлю і разбілі пад Легніцай польскіх князёў, нават не падышлі да Навагарадка. Захопнікаў спынілі на далёкіх межах. І калі нашчадку полацкіх князёў Гедыміну «жалезны воўк» падказаў перабрацца на горы каля Крывіч-горада ды пабудаваць там новую сталіцу — Вільню, гэтыя мясціны не абязлюдзелі. Навагарадак застаўся духоўным цэнтрам вялікай гістарычнай вобласці, населенай крывічамі і дрыгавічамі,— Літвы.

Гэты духоўны цэнтр выхаваў шмат якіх волатаў палітыкі, культуры і літаратуры. Яшчэ вітаў тут дух Рэйтана, навагарадскага пасла, які ўславіў сваё імя і гэты край пратэстам супраць згоды на падзел Рэчы Паспалітай, а навагарадская зямля спарадзіла славутага вешчуна. Спарадзіла 195 гадоў таму.

Як і ўсім славутым сынам гэтага краю, Адаму Міцкевічу было наканавана выгнанне. Ды ён не стаў блудным сынам. Любоў да Бацькаўшчыны найперш праявілася ў словах: «О... Айчына мая!» А тую мову, на якой яму ў дзяцінстве баялі казкі, ён назваў самай старажытнай і дасканала распрацаванай. 32 леты з 57 гадоў жыцця Адам Міцкевіч ішоў да Бацькаўшчыны. І, напэўна, дайшоў бы, каб не быў атручаны ў Стамбуле.

Паэт Адам Міцкевіч — Божы дар усяму чалавецтву. А ягонае імя заўсёды выкарыстоўвалі людзі, што не разумелі і не хацелі разумець ні паэта, ні ягоных твораў. Час, што праўда, ужо мяняецца. І на навуковай канферэнцыі, наладжанай Навагарадскім домам-музеем Адама Міцкевіча ды падтрыманай адзінаццаццю спонсарамі, адчувалася зацікаўленасць творчасцю паэта, ягоным светапоглядам, вытокамі ягонай духоўнасці. Час сапраўды змяніўся, змяніліся і людзі. Ніхто не пратэставаў і не пляскаў у далоні, калі шаноўны Мечыслаў Яцкевіч, доктар гуманітарных навук з Ольштына, сказаў на беларускай мове, што Адам Міцкевіч — палякаў, беларусаў і літувісаў — супольны геній. Далей, ужо па-польску, пан Яцкевіч распавядаў, як летувісы «рабілі» Адомаса Міцкуса паэтам Летувы, якому «палякі павінны быць удзячны за праслаўленне іх мовы». Ўражанне ад цікавага даклада, на жаль, змянілася. Адказваючы на пытанне, ці Адам Міцкевіч ведаў летувісцкую мову, шаноўны доктар сказаў, што Міцкевіч яе не ведаў, але паэт не мусіць ведаць мовы, бо ён разумее душы народа. І гэтае меркаванне супярэчыла галоўнай думцы даклада, што летувісы, перакладаючы Адама Міцкевіча, фальшавалі яго тэксты.

Іншы госць, дырэктар Маскоўскага музея А. С. Пушкіна пан Я. Багатыроў гаварыў пра надыходзячы 200-гадовы юбілей «нашых» паэтаў. Ён заклікаў аб'яднацца, каб погляды, прыкладам, погляд Вяземскага на Міцкевіча і Пушкіна, «ацаніць па-новаму». Пан Я. Багатыроў згадаў верагодна сфальшаванае, калі не цалкам падробленае, Міцкевічава выказванне-мару пра той час, калі «народы, распри позабыв, в единую семью объединятся». Не магу сабе ўявіць, каб такое мог сказаць Адам Міцкевіч, разлучаны з родным краем, што ўжо рыхтаваўся да другога вызвольнага паўстання. І сам Міцкевіч актыўна ўдзельнічаў у таварыстве філарэтаў, якія ставілі сабе і палітычныя мэты. І каго заклікаў «аб'яднацца» пан Я. Багатыроў? Тых, каму адмаўляюць у праве быць народам, ды тых, трэць якіх прагаласавала за чалавека, што «распри (з нямецкімі фашыстамі) позабыв», гаворыць: мяжа па Одры і Нысе — не апошняе слова гісторыі?

Я ж асабіста хацеў бы калісь паслухаць даклад пра тое, што і Міцкевіч і Пушкін скарысталі з беларускага фальклору, ды на якія творы натхніла іх наша народная паэзія.



Найлепшае ўражанне засталося ў мяне ад выступлення нашых даследчыкаў-літаратуразнаўцаў. Іх аналіз творчасці Адама Міцкевіча, у прыватнасці паэмы «Пан Тадэвуш», быў больш грунтоўным хаця б таму, што для параўнання яны выкарыстоўвалі другі шэдэўр беларускай літаратуры — «Новую зямлю» Кастуся Міцкевіча. Мне прыемна было адчуваць, што ўсе яны, нашы даследчыкі, ніколі не ўмешваліся ў местачковую валтузню і спрэчкі: чый Міцкевіч? Іх вырашэнне балючай праблемы было навуковым. Як заўважаў Уладзімір Мархель, да Міцкевіча трэба дайсці. А гэта нялёгкі шлях, як і нялёгкім быў шлях самога Міцкевіча праз лакальны, навагарадскі (каб не гаварыць літоўскі) патрыятызм да Сусвету. І ўжо адтуль ізноў да Бацькаўшчыны. А яшчэ спадар Мархель акрэсліў новую, як для мяне, праблему: ці ўсведамляў сябе Міцкевічам — нашчадкам (паводле духу і творчасці) Адама Міцкевіча — другі Нёманаў гадаванец, які, калі адчуў у сабе Божы дар улады над словам, назваўся Якубам Коласам?

Тэму роднасці «Пана Тадэвуша» і «Новай зямлі» па-свойму раскрыў Аляксей Пяткевіч. У сваім цікавым дакладзе «Пан Тадэвуш» — як адбітак беларускага светаадчування», прачытаным лёгка, узнёсла, спадар Пяткевіч гаварыў пра паварот Міцкевіча-рамантыка да рэальнага жыцця. У паэме «Пан Тадэвуш» выразна праявілася своеасаблівае светаадчуванне Міцкевіча, вельмі падобнае да беларускага народнага светаадчування. Гэта выявілася і ў паказе прыроды, і ў мастацкай вобразнасці, ды асабліва ў маральна-эстэтычнай абмалёўцы вобраза галоўнай гераіні паэмы — Зосі. Дакладчык зрабіў выснову, што ў эстэтыцы паэмы «Пан Тадэвуш» Міцкевіч адышоў ад рамантычнасці. У яго творчасці таго часу ўжо зазначыўся паварот да звычайнага, рэальнага жыцця, што пасля выразна праявіцца ў паэме «Новая зямля» Якуба Коласа.

Пра падабенства твораў двух Міцкевічаў гаварыла і дацэнт Нававолацкага універсітэта, кандыдат філасофскіх навук Алена Ніякоўская. Абедзве паэмы — «Пана Тадэвуша» і «Новую зямлю» — аб'ядноўвае перш за ўсё «пошук страчанага часу», ажыўленне таго, што «мінула з ветрам», успамін пра той свет, які гіне на ростанях гісторыі. Абодва творцы хацелі захаваць непаўторны мікракосм свайго народа, той свет, які нарадзіў іх і аддаў Сусвету. З эпічнай вышыні яны сумна глядзяць на «родны кут» і бачаць, што ён гіне, і нічога не могуць змяніць. У сваім дакладзе «Прастора эпічнай дзеі у «Пану Тадэвушу» і «Новай зямлі» спадарыня Ніякоўская шмат цытавала і Міцкевічаў: папольску і па-беларуску. Зрэшты, не толькі Міцкевічаў.

З радасцю пераконваюся, што навуковы ўзровень навагарадскіх канферэнцый расце. І павялічваецца цікавасць да такіх сустрэч навукоўцаў — да сваёй гісторыі. Толькі пяць месяцаў прайшло пасля Трэціх Навагарадскіх чытанняў (краязнаўчых), спонсарамі якіх былі камбінат надомнай працы і закрытае акцыянернае таварыства «Лотас». Гэтай снежаньскай канферэнцыі спрыялі 11 ахвярадаўцаў.

Спакваля, павольна, але, мяркую, вяртае наша даўняя сталіца сваю былую славу. Яе духоўнае адраджэнне будзе паскарацца надыходзячым 200-годдзем з дня нараджэння Адама Міцкевіча. На жаль, падрыхтоўка, відаць, будзе весціся аматарамі. (А вось пан Я. Багатыроў паведаміў на канферэнцыі, што прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын ужо падпісаў Указ аб дзяржаўнай падрыхтоўцы да 200-гадовага юбілею А. С. Пушкіна.) Будзем спадзявацца на цуд.

«Святая дзева, ...што ўзяла ў ахову
Наш слаўны Наваградак з яго верным людам,
Як мне жыццё ў дзяцінстве ты вярнула цудам,...
Так цудам зноў нас вернеш у наш край каханы».

Здзіслаў СІЦЬКО.




Адам МІЦКЕВІЧ

## Песня філарэтаў

*Гэй, знікні, суму хмара!*
*Жывём мы толькі раз.*
*Хай залатая чара*
*Не марна вабіць нас.*

*Пускай яе па кругу,*
*Падай у рукі другу,*
*Бяры і пі да дна,*
*Дзе глыб жыцця відна.*

*І не мялі пустое —*
*У чары польскі мёд,*
*Спявайма толькі тое,*
*Што родны склаў народ.*

*У пыл бібліятэкі*
*Ты лез, каб сёння жыць,—*
*Гуляць і піць, як грэкі.*
*І як рымлянін,— біць!*

*Юрыстам, як дарунак,*
*Стаў келіх кругавы.*
*Падай цяпер руку нам,*
*А заўтра — дай правы.*

*Не ўзніме красамоўства*
*Свабоды змагароў.*
*Дзе мужнасць і сяброўства,—*
*Браты, не трэба слоў!*

*Хто гне метал і паліць —*
*Расплавіць працай час.*
*У залатым метале*
*Кіпіць віно для нас.*

*Той хімік па прызванню,*
*Мудрэц і жыццялюб,*
*Хто можа мёд кахання*
*Цягнуць з дзявочых губ.*

*Планет шляхі-дарогі*
*Усё змераўшы як след,*
*Быў без апоры ўбогім*
*Славуты Архімед.*

*Калі захоча зрушыць*
*Цяпер зямлю Н'ютон,*
*Хай злічыць нашы душы*
*І — хопіць! — скажа ён.*

*Вучоным цыркуль мілы*
*І мёртвы бляск свяціл,*
*Для нас намераў сіла*
*Праўдзівей меры сіл.*

*Наш цыркуль — сэрцаў вера,*
*Імкненняў ясны дух.*
*Дабро — адна ў нас мера,*
*І дружба — болей двух.*

*Гэй, згінь ты, суму хмара!*
*Жывём мы толькі раз.*
*Стаіць, чакае чара,*
*Ды не чакае нас.*

*Кроў студзіць, скроні беліць.*
*Закрэсліць вечнасць нас,*
*Закрыўшы вочы Фэлі...*
*Вось філарэтаў сказ!*





З Віцебшчынай знакамітага беларускага паэта, драматурга, празаіка Уладзіміра Караткевіча звязвала шмат. Ён нарадзіўся ў Оршы, дзе яго імя зараз носіць вуліца, у гэтым горадзе адкрыты музей пісьменніка, устаноўлены абеліск. А нядаўна помнік У. Караткевічу адкрыты і ў Віцебску (на здымку).

Фота Аляксандра ХІТРОВА, Белінфарм.




*Д. ДЖАРВІС: Карысныя ўласцівасці бурых марскіх водарасцей*

*(Працяг. Пачатак у № 2)*

Да найбольш каштоўных мінеральных рэчываў, што ўваходзяць у састаў жывых арганізмаў, адносяцца ёд, медзь, кальцый, фосфар, марганец, натрый, калій, хлор і сера. Усе яны, акрамя ёду, утрымліваюцца ў глебе, а адтуль трапляюць у прадукты харчавання. Аднак у выніку разбуральнай дзейнасці чалавека, паколькі ён стварае ўмовы для эрозіі глебы, вышчалочвання з яе найбольш каштоўных мінеральных элементаў і вымывання іх вадой крыніц і рэк у мора, мінеральных рэчываў у глебе становіцца ўсё менш і менш. А гэта ў сваю чаргу выклікае іх недахоп у прадуктах харчавання і адмоўна адбіваецца на здароўі людзей.

У кожнага з нас час ад часу з'яўляецца вострае адчуванне недахопу таго або іншага рэчыва, напрыклад цукру, крухмалу, тлушчу і інш. Арганізм быццам бы падае сігнал, які дапамагае вызначыць, чаго яму не хапае. Пры нармальным здароўі мы выбіраем ежу па свайму густу. Пры працяглым недахопе ў харчаванні жыццёва важных элементаў адбываюцца сур'ёзныя парушэнні балансу арганізма. Так, шчытападобнай залозе неабходны ёд; парашчытападобнай і падстраўнікавай залозам — кобальт і нікель; надныркавым — магній; пярэдняй долі гіпофіза — хлор; палавым залозам — жалеза. Неабходны зусім новы падыход да патрэб арганізма ў жалезе, медзі, марганцу, цынку і алюмінію, паколькі выяўлена, што яны адыгрываюць ролю каталізатараў, электрызатараў і іншую важную ролю ў розных працэсах арганізма, у прыватнасці ў працэсе ўтварэння паўнацэннай крыві. Жалеза непасрэдна ўваходзіць у састаў гемаглабіну крыві — пераносчыка кіслароду. Анемія — гэта хвароба недастатковасці жалеза ў крыві. На жаль, арганізм чалавека не можа ствараць вялікія запасы жалеза.

Паколькі рэсурсы глебы з года ў год спустошваюцца, а акіяны ўзбагачаюцца мінеральнымі рэчывамі, то цікавасць да прадуктаў мора, за кошт якіх чалавек можа папоўніць іх недахоп у арганізме, павялічваецца. У акіяне расце бурая водарасць — яе часта разглядаюць як марскую гародніну і скарыстоўваюць у якасці харчовага дадатку. Багатыя заараснікі бурай водарасці сустракаюцца ля берагоў Каліфорніі. Яны пышна разрастаюцца на глыбіні ад 6 да 10 марскіх сажняў (1 сажань роўны 182 см) у месцах з камяністым дном. Карэнняў у іх няма, і яны прымацоўваюцца да скал сцяблінамі. Жывіцца водарасць вадою.

Бурая водарасць уяўляе сабой натуральную ежу, багатую на пажыўныя рэчывы. Адсарбіраваныя з вады, мінеральныя рэчывы ў велізарнай колькасці знаходзяцца ў арганічным калоідным стане і могуць хутка засвойвацца арганізмам. Збіраюць водарасці спецыяльнымі машынамі, якія мацуюцца да катэра. Цікавая і тэхналогія ператварэння водарасцей (а іх усяго 6—7 гатункаў) у гатовы прадукт харчавання або ў лекавы сродак. У штаце Каліфорнія існуе добра абсталяваная кампанія па перапрацоўцы водарсцей, якая працуе на сусветны рынак. Яна вырабляе лекі з марскіх водарасцей у выглядзе гранул і таблетак.

А зараз спынімся на тэме скарыстання марскіх водарасцей у лекавых мэтах народнай медыцынай.

## *Афарызмы*

*Браніслаў ЦРНЧАВІЧ*

**Мая айчына малая, люблю яе, бо шкада.**

**Цела кожнага тырана, пагружанага ў народ, выціскае столькі народу, колькі тыран важыць.**

**Малыя народы хворыя ад вялікага разумення.**

**Мы ахоўваем брацтва і адзінства нават ад сваіх братоў.**

**Разумны правадыр заўжды даруе народу ўсе свае памылкі.**

**Мог бы жыць і лепей, але сорамна.**

**Сёння зноў бачыў Канстытуцыю. Божа, як змянілася яна з той пары, як мы ўчора апошні раз яе бачылі!**

**Ідэалісты мяняюцца, ідэалы ж вечныя!**

**Рэвалюцыянер — гэта чалавек, які зміняў уладу больш, чым яна яго.**

**Паэт адказвае толькі за тое, чаго не сказаў.**

**Да шчаслівых народаў будучыня прыходзіць сама, няшчасныя павінны ісці да яе.**

**Я за сонечную сістэму, яна ўсё ж такі найбольшая.**

**Пралетарыі ўсіх краін, апамятайцеся!**

**Прагрэсіўны чалавек — гэта сёння спецыяльнасць.**

**Крытыка зверху, крытыка знізу, а ў сярэдзіне — нічога.**

**Чуў, што заўтра будзе лепш, ды я заўтра тут не буду.**

**Нашы продкі жылі вельмі бедна, а па некаторых звестках, зусім не жылі.**

**Мы прысутнічаем пры неверагодным развіцці любові да працоўных і ніколькі не меншым развіцці пагарды да працы.**

З сербскахарвацкай пераклаў Іван ЧАРОТА.

## Пачутае «У Лявона»

У вас нехта пачуў адэскія анекдоты. А я дык наслухаўся сваіх, беларускіх. Ды якіх новенькіх!

* * *

Дэпутаты зрабілі напамін Вячаславу Кебічу:

— Вы абяцалі навучыцца размаўляць на беларускай мове.

— Мінуточку,— дастае з кішэні паперку і чытае.— За гэты час мы дасягнулі пэўных поспехаў...

Хавае паперку і працягвае гаварыць далей:

— Как видите, я свои обещания выполняю.

* * *

У беларуса пытаюць:

— Якую назву вы хацелі б надаць свайму вышэйшаму органу ўлады: Вярхоўны Савет, парламент ці сойм?

— Не. Кангрэс.

* * *

Неяк пацікавіліся ў былога партакрата з Вярхоўнага Савета:

— Чаму вы маўчыце на сесіях, а гамоніць толькі апазіцыя?

— Мелі б яны такія лецішчы, як я, то маўчалі б, як рыба ў вадзе. Не будуць чапаць і надалей маўчаць буду.

* * *

Журналіст звяртаецца да Станіслава Шушкевіча:

— Вы за рэферэндум і новыя выбары ці супраць?

— Я хацеў бы яшчэ папрацаваць у якасці старшыні Вярхоўнага Савета.

— Значыць, вы супраць. Тады плёну ў працы.

— Які тут плён. Хіба цяперашні Вярхоўны Савет дасць магчымасць працаваць!

* * *

Беларус запаўняе цыдульку і ў пункце «нацыянальнасць» піша «паляк». Праз некаторы час у той самай даведцы піша «рускі». У яго пытаюць:

— Дык вы паляк ці рускі?

— Калі трэба, то і немцам буду.

* * *

Сустрэліся два дэпутаты-партакраты.

— Сёння ў Вярхоўным Савеце зноў будуць абмяркоўваць пытанне аб мове. Трэба заваліць.

— Дзівак. Калі будзем галасаваць супраць, то аб нас напішуць ва ўсіх газетах, і станем белымі варонамі. Пайшлі лепш на Камароўку. Добрую рэч прыдбаем, а ў Вярхоўным Савеце не будзе кворуму. Вынік будзе той жа самы.

* * *

Міністр абароны Рэспублікі Беларусь наведаў вайсковую часць. З камандзірам зайшоў у вайсковую кашару. Дзяжурны, атрымаўшы папярэдне інструктаж падаваць усе загады выключна на беларускай мове, крычыць: «Зважай!» Міністр робіць заўвагу камандзіру:

— Ганьба несусветная. У вас салдаты настолькі п'яныя, што ў міністра пытаюць, ці ён паважае іх.




## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**19 СТУДЗЕНЯ, СЕРАДА**

**17.45. Для школьнікаў. Літаратурны тэатр. У. Арлоў. «Дзень, калі ўпала страла».**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Ток-шоу з удзелам кінарэжысёра В. Турава.**
**21.00. Панарама.**
**22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**20 СТУДЗЕНЯ, ЧАЦВЕР**

**15.15. Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. VI клас. Культура старабеларускіх зямель у IX—XIII стагоддзях.**
**15.45. Песні беларускіх кампазітараў.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.15. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.**
**21.00. Панарама.**
**22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**21 СТУДЗЕНЯ, ПЯТНІЦА**

**17.00. Голас. Літаратурна-мастацкі канал для школьнікаў.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.00. Якія мы гаспадары. Рэпартаж з першага з'езда фермераў.**
**20.15. Студыя «Тэлесябрына». Калядные рэха.**
**21.00. Панарама.**
**22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**22 СТУДЗЕНЯ, СУБОТА**

**16.50. ПІК. Публіцыстычна-інфармацыйны канал для падлеткаў.**
**17.20. Паэтычная гасцёўня. Вершы Віктара Шніпа.**
**18.05. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**23.05. НІКа.**

**23 СТУДЗЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

**15.00. Шоу-TV «Тры апельсіны».**
**16.35. Кола дзён. Віленскі мастак Сяржук Поклад.**
**18.00. Праграма фільмаў Чарлі Чапліна.**
**18.35. «Гінес-шоу».**
**19.05. Радавод. «Памяць стагоддзяў».**
**20.00. Панарама.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 57.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 8900 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 17.I.1994 г. у 15 гадзін.